Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 22 22-28 верасня 1995 года ЦАНА 500 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Супрацоўнік праваахоўных органаў: "Ён "сыграў" апошнюю бойку..."

***МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні супрацоўнікі міліцыі знайшлі ў адной з маладзечанскіх кватэр труп гаспадара - артыста абласнога драмтэатра. Звесткі пра здарэнне паступаюць самыя розныя.***

Як пра ўсё стала вядома міліцыі, нам невядома. Паводле адной версіі, туды патэлефанавала жонка забітага, па другой - дзверы кватэры прыйшлося ўзламаць звычайнаму нараду міліцыі. Супрацоўнікі крымінальнага вышуку, што працавалі на месцы здарэння наступнай раніцай, наўрад ці што знайшлі карыснае для расследавання ("Нашы ўчора тут натупалі").

На момант здачы нумара ў друк было вядома, што пасля абеду артыст разам са сваімі знаёмымі наведаў нямала піцейных пунктаў Горада Сонца. На добрым падлітку кампанія і прыйшла ў тую кватэру па вул. Крынічнай. Усе прысутныя міліцыяй устаноўлены. Далей - адныя пытанні.

У кватэры ўсё параскіданае - бойка паміж "сябрамі" больш чым верагодная. Усюды кроў (канапа, падлога, туалет, ванны пакой, адзенне нябожчыка), не было яе толькі на кухні.

Міліцэйская брыгада ўзяла на экспертызу чыстыя нажы і паехала на абед. Пры гэтым была вылучана версія аб самазабойстве, хаця, згадзіцеся, цяжкавата пырнуць сябе ў жывот, а затым працерці нож. Праўда, некаторыя сцвярджаюць, што раненне магло быць нанесена на вуліцы, бо кроў відаць і пад дзвярыма кватэры на пятым паверсе (але дзверы чыстыя).

Устаноўлена, што пілі чатыры чалавекі (адзін, мяркуецца, з Мінска), шклянак жа на кухні чамусьці было пяць. Па ўсім відаць, што тры чалавекі спалі ў зале, дзе больш за ўсё крыві, а будучы нябожчык - на кухні. Пра адбіткі пальцаў гаворка наўрад ці можа ісці.

Акрамя чалавека, у кватэры знойдзены здохлы папугай.

***Аддзел ІНФАРМАЦЫІ***

## ПЕРАВЯДЗЁМ СТРЭЛКІ

У адпаведнасці з парадкам вылічэння часу, вызначаным урадам РБ, Белстандарт паведамляе, што ў сувязі з заканчэннем "летняга часу" стрэлкі гадзіннікаў на ўсёй тэрыторыі краіны ў 3 гадзіны 24 верасня пераводзяцца на 1 гадзіну назад.

## Панове, рабіце стаўкі. Цвёрдыя

***З першага кастрычніка гэтага года для шэрагу прадпрымальнікаў Мінскай вобласці устанаўліваюцца цвёрдыя стаўкі падаходнага падатку, што ўпарадкуе паступленне грошай на рахункі дзяржбюджэту. Такі парадак ужо дзейнічае у Мінску і некаторых іншых абласцях Беларусі. Пад гэтае правіла падпадаюць наступныя віды дзейнасці.***

Тэхнічнае абслугоўванне і рамонт асабістых аўтамабіляў і іншых транспартных сродкаў; рамонт металавырабаў, бытавых машын і прыбораў, радыётэлевізійнай апаратуры; рамонт і пашыў адзення, абутку, галаўных убораў, вырабаў з футра, швейных і галантарэйных вырабаў на даму па заказах насельніцтва; рамонт мэблі на даму ў заказчыкаў; фатаграфаванне і іншыя фотаработы па заказах грамадзян; цырульныя паслугі, а таксама касметычныя паслугі, не звязаныя з лячэбнай дзейнасцю; транспартнае абслугоўванне грамадзян уладальнікамі асабістых аўтамабіляў і іншых транспартных сродкаў; правядзенне заняткаў у парадку рэпетытарства; вязанне вырабаў ручным спосабам; паслугі, аказваемыя грамадзянам, па рамонту і абслугоўванню кватэр, дамоў і іншых збудаванняў; музычнае абслугоўванне сямейных урачыстасцей; здача напракат вясельных убранняў; здача напракат відэатэхнікі і аўдыёкасет; здача ў наём жылых памяшканняў; лячэбны і спартыўны масаж; развядзенне і продаж дамашняй жывёлы; відэаздымка па заказах грамадзян.

***Аддзел ІНФАРМАЦЫІ***

## Валютнае паляванне

***ВАЛОЖЫН. Даўно аблюбавалі лясныя ўгоддзі Валожыншчыны нямецкія паляўнічыя. Асобныя з іх пабывалі ў нашых мясцінах дзесяткі разоў.***

Калі ў першыя разы былі розныя меркаванні наконт палявання за валюту, то цяпер усе радуюцца хоць такому прытоку яе ў раён. Напрыклад, толькі гэтай вясной на рахунак Валожынскага лясгаса паступіла ў перакладзе на нашы грошы – 70 мільёнаў рублёў. А нямецкія паляўнічыя павезлі дадому чучалы 4 глушцоў, 5 цецярукоў і 12 вальдшнэпаў.

У гэтыя вераснёўскія дні ў раён прыбылі 6 нямецкіх паляўнічых. Яны маюць ліцэнзіі на адстрэл аленя, дзіка і казулі. Яшчэ два жыхары Германіі прыбылі да нас без ружжаў, проста на адпачынак. Іх вельмі вабяць беларускія лясы, маляўнічыя мясціны ў гэты час года.

***Наталля ШТЭЙНЕР***

## Школа расце. Уніз?

***ВІЛЕЙКА. У апошнія гады школ у горадзе становіцца больш. Мінулай восенню пачала працаваць пятая, сёлета адкрылася шостая школа.***

На жаль, аптымізму ў гараджан гэта не выклікае. З другой, перагружанай звыш меры, перасялілі ў цесны і стары будынак некалькі класаў – атрымалі пятую. У заводскім мікрараёне ў будынак былога садка сабралі пачаткоўцаў з навакольных школ.

З аддаленага раёна - "Шанхая" - сюды адкамандзіравалі вучыцца два класы. Менавіта гэта і выклікала абурэнне і незадаволенасць бацькоў.

Падставы для гэтага ёсць. Бо калі паглядзець з вакон іх дамоў, здалёк відаць размешчаны на гары прасторны будынак пятай гарадской школы.

Новабудоўля павіна была прыняць дзяцей чатыры гады назад, але і сёння замест дзіцячых галасоў у пустых сценах сумна гудзе вецер, а школа, як не дзіўна, расце ўніз. Бо "святое месца пустым ні бывае". Дзе няма сапраўдных гаспадароў, такія знаходзяцца самі. У адсутнасць будаўнікоў на аб'екце гаспадарыць прырода. Ад атмасферных ападкаў разбураецца тынкоўка, зводзяцца да нуля іншыя работы. Ды і людзі "дапамагаюць" – хто дошку прыхопіць, хто цагліну, а каторы і больш каштоўнае для сябе знойдзе.

Дзеці ж па-ранейшаму штурмуюць гарадскія аўтобусы, матулі турбуюцца за іх бяспеку. А тыя вілейчане, якім былі абяцаны веды ў новых сценах, сёння ўжо самі сталі матулямі.

Прычына спынення будаўніцтва – адсутнасць сродкаў у абласным бюджэце. Патрэба ж у іх расце не толькі таму, што робіць сваю справу інфляцыя, а яшчэ і таму, што не выкарыстоўваюцца, практычна ідуць на вецер грошы, ўжо ўкладзеныя ў будынак.

Бацькі занепакоены. Сёння вілейскіх будаўнікоў можна сустрэць у многіх суседніх раёнах. Шукаюць сабе работу, каб не сядзець без справы і без кавалка хлеба. У Вілейцы багатыя людзі будуюць на свае сродкі шыкоўныя офісы, гасцініцы, царкву. У пасёлку Касманаўтаў на сродкі бюджэту пабудавалі лазню. А бацькі другакласнікаў і трэцякласнікаў, што вымушаны з "Шанхая" ездзіць аж у шостую гарадскую школу, не могуць зразумець: няўжо ў багатых людзей горада не баліць галава пра дзетак? Калі сёння яны маюць сродкі, чаму не дапамогуць беднаму бюджэту закончыць будаўніцтва? Многія прапануюць своеасаблівы аўкцыён: хочаш будаваць у горадзе офіс або бар – аплаці за ўчастак сваім удзелам у будаўніцтве школы. Пакуль жа ў нашым "Шанхаі" – як у Кітаі, крайнімі застаюцца дзеці, і ўсе спадзяванні на тое, што іх стане менш.

***Таццяна МАРОЗ***

## "Прыйдзе шэранькі ваўчок..."

***АСТРАВЕЦ. Менавіта аб гэтым літаратурным творы давялося прыгадаць кіраўніцтву і калгаснікам з калгаса імя Мічурына.***

Сярод ночы шэрыя ваўкі прабраліся ў летні лагер на ферму "Дравянкі", дзе былі цяляты і вырашылі павячэраць. Разабраўшыся з адным, пакінуўшы ад таго ў прамым сэнсе "рожкі ды ножкі", прыняліся і за другога. Але, відавочна не разлічылі свае страўнікі і пакінулі таго. На раніцы бычка прыйшлося ўсё ж дарэзаць. А вось калгасным бухгалтарам цяпер даводзіцца падлічваць кошт такой вячэры і разводзіць рукамі: "А каму выстаўляць рахунак для запічэння грошай?"

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ***

## Падвёў рысу

***ВІЛЕЙКА.*** У ноч з нядзелі на панядзелак падвёў рысу пад сваім жыццём намеснік начальніка Вілейскай аб'яднанай (гарадской і раённай) падатковай інспекцыі К. Да нядаўняга аб'яднання гарадской і раённай інспекцый ён узначальваў гарадскую.

# Кава па-ашмянску

***Ехаць з Маладзечна ў Ашмяны на кубак кавы — недазвольная раскоша. Набыць гэты напой можна ў любым магазіне альбо камерцыйным кіёску.***

Але, як запэўнілі мяне ў Маладзечанскім цэнтры стандартызацыі і метралогіі, большасць таго, што прадаецца, нават у прыгожай замежнай упакоўцы,— далёка не заўсёды кава. А нешта падобнае на адходы альбо сурагат. Зрэшты, мне самому аднойчы давялося апячыся на прадукцыі польскай расфасоўкі. Ну, а ў Ашмянах здаўна працуе да апошняга часу адзіная ў рэспубліцы кавава-цыкорная фабрыка. Карцела даведацца, як тут ставяцца да пакупніка, ці не выкарыстоўваюць становішча манапаліста, каб пад меркай кавы "гнаць"няведама што. Задаў гэтыя пытанні дырэктару фабрыкі Яніне Адольфаўне Борыс — і зразумеў, што дарма.

— Мы ўвесь час імкнуліся працаваць з кліентамі чэсна,— адказала Яніна Адольфаўна.— Цяпер тым больш. У Беларусі пачалі з'яўляцца прадпрыемствы па перапрацоўцы кававага зерня і дзяржаўныя, і прыватныя. Таму канкурэнцыі не пазбегнуць. Адзіным аргументам у "выяўленні адносінаў" будзе якасць прадукцыі, надзейнасць слова. Сёння фабрыка мае вельмі сур'ёзнага партнёра ў асобе амерыканскай фірмы Gordon Enterprises Ltd. На патоку ў нас "арабіка" — кава вышэйшага гатунку з прыемным пахам і тонкім смакам.

*— Але, пагадзіцеся, мала атрымаць добрую сыравіну, патрэбна яшчэ...*

— Можаце не працягваць. У нас на фабрыцы ўстаноўлена самае сучаснае імпартнае абсталяванне, а на найбольш адказных участках працуюць вопытныя, граматныя спецыялісты. Дарэчы, многія з вышэйшай альбо сярэдняй спецыяльнай аукацыяй. І натуральна, кантроль, кантроль і яшчэ раз кантроль.

*— Яніна Адольфаўна. будзем лічыць, што вы пераканалі нашых чытачоў і яны сталі прыхільнікамі ашмянскай кавы. Як адрозніць яе ад іншых?*

— Прасіце ў магазінах каву "Premier" у зярнятах Ашмянскай кававацыкорнай фабрыкі. Наш фірмовы знак — кававае зерне ў трохкутніку.

*— І, калі не сакрэт, якую каву п'е сам дырэктар?*

— Натуральна, толькі ашмянскай расфасоўкі, чорную і без цукру.

***Алесь ЛАЗОЎСКІ***

# Загадка: у Маладзечне ёсць тое, чаго ва ўсёй краіне няма

Адказ крыху сумнаваты: толькі тут паспяхова дзейнічае адзіная на Беларусі (!) беларуская гімназія. Беларускімі, праўда, спрабуюць называць сябе некаторыя іншыя сярэднія навучальныя ўстановы краіны, аднак толькі ў Маладзечне выкладанне ўсіх прадметаў вядзецца менавіта на беларускай мове. Адзінадушна прызналі гэта ўдзельнікі педагагічнага семінара, што праходзіў у траўні ў сталіцы.

Сапраўды, намаганнямі ў першую чаргу дырэктара гімназіі Барыса Уладзіміравіча Вайцяхоўскага ў былой СШ № 10 (абедзве ўстановы існуюць паралельна, пакуль не пройдзе выпуск апошні негімназічных класаў) пасяліўся беларускі дух.

Шлях да гэтага быў няпросты. Давялося пераадольваць не толькі першапачатковае неразуменне некаторых бацькоў, але адсутнасць дапамогі з боку гарадскіх уладаў і нават аддзела адукацыі (са зменай кіраўніцтва апошняга змянілася і стаўленне да гімназіі).

Цяпер гімназія вызвалена, нарэшце, ад абавязковага прыёму вучняў свайго мікрараёна. Увесь набор у першыя класы праводзіцца на конкурснай аснове (першымі адбор пачалі праходзіць... выкладчыкі). І што самае цікавае, практычна адразу пры прыёме вучняў стварыўся конкурс.

Для адных вучоба дзяцей у гімназіі стала прэстыжнай, іншыя зразумелі, што не мова замінае добраму навучанню дзяцей. Можна, аказваеццца, паспяхова засвойваць фізіку ды матэматыку, калі яе выкладаюць па-беларуску. Ёсць для гэтага і свая тэрміналогія, пакрысе з'яўляюцца падручнікі (хаця з апошнімі існуюць найбольшыя цяжкасці). Аказваецца, пасля навучання па-беларуску можна без праблемаў паступаць у рускамоўныя ВНУ, і не толькі ў Беларусі.

Проста не варта пераносіць свае праблемы ў вывучэнні мовы карэннай нацыі на дзяцей. Яны - разумнейшыя за нас. Так было, напэўна, заўсёды, калі людзі недаацэньвалі ўласных дзяцей.

***Борух ВЫКРУТАСАЎ.***

# Мова зямлі нашай

Тапанiміка — гэта мова зямлі, а зямля ёсць кніга, дзе гісторыя чалавечая запісана ў геаграфічных назвах.

І. Філевіч.

Пытань, Люцінка, Добрая Зямля, Караблі, Дайнава — назвы некаторых валожынскіх вёсак. Іх у раёне больш за 400. Хатка пры хатцы, садок пры садку — сядзібы, як сарамлівыя дзяўчаты, выглядаюць вокнамі з-за зубчатых тынкоў. Вёска — гэта своеасаблівая вялікая радня, дзе кожны свой сярод чужых. А таму і называюць людзі сваю маленькую радзіму па-сваяцку цёпла: «мае Замасцяны», «маё Залессе», «маё Забор'е».

Аднак сваяцтва, прычым, даволі блізкае, маюць і самі назвы. Іх на Валожыншчыне багата, нібы арэхаўспарышоў у ляшчэўніку. Я падлічыла: амаль сорак вёсак у раёне маюць аднолькавыя найменні. Ёсць Студзянец у Гародзькаўскім і Студзянец у Забрэзскім сельскіх саветах, Зарэчча ў Ракаўскім і Зарэчча ў Дорскім, Леснікі ў Пяршайскім і Сугваздаўскім, Замасцяны ў Сакаўшчынскім і Івянецкім сельсаветах, ёсць дзве вёскі Багданава, двое Старынкаў, Шапавалаў, Вуглоў і г.д.

Тапонімы — гэта дзіўная мова зямлі. А калі пагартаеш гэтую жывую кнігу назваў, то сустрэнешся ў Валожынскім краі з Пятровічамі і Янушкевічамі, Харытонамі і Дзямідавічамі, Макаранятамі і Янавічамі, Мішанамі і Ігнатавамі. Нібы маладыя пасля заручын, жывуць тут Монькі і Данілкі, Ядзейкі і Цімкавічы, Рымавічы і Адамкі, Александрова і Аўгустова...

Берагуць, бароняць ад ліха свае сямейныя гнёзды жыхары вёсак з незвычайнымі назвамі: Галубы, Вароні, Сарокі, Арлоўшчына, Жураўцы, а таксама Кражына і Цвіркаўшчына.

Зацішлівыя, звычайна аддаленыя ад бойкіх дарог, мясціны абралі для свайго прыстанішча Бабры, Козлікі, Белякі, Хамічы, Звяркі, Коцеўшчына Волкаўшчына, Казельшчына, Кабыльчыцы.

Жывуць у налібоцкім краі Ткачы, Леснікі, Ганчары, а якое рамяство даспадобы многім у Печаўшчыне і Пральніках, здагадацца няцяжка. Насяляюць валожынскую зямлю Татары, Казакі, «баяры» — Баяршчыну.

У вялікай і дружнай тапанімічнай сям'і сустрэла і вёску, жыхарам якой нельга хварэць на пана, бо называецца вёска Праца (Багданаўскі сельсавет).

Работу да сёмага поту любяць не толькі тут. У Падбярэзскім сельсавеце ёсць вёска Пуні, а непадалёку — Мяхі. Умалотна штогод у Пунях, багата тут збажыны, відаць, маюць гаспадары, а вось, каб здрабніць зерне, трэба збірацца ў дарогу за блізкі свет, бо Млынкі знаходзяцца прыкладна за трыццаць вёрст адсюль — аж за Івянцом. Нямала кіламетраў перамеляць жорны дарог, пакуль фурманка з Поцяў адолее шлях у Млынкі.

А натрудзіш рукі і плечы за дзень — захочацца вадзіцы. Асабліва ўлетку найсмачнейшая, вядома ж, крынічная. Яна — сапраўдны нектар зямлі. А дзе наталіць смагу, гэта ўжо выбірайце самі: ці то ў Крыніцы, што ў Ракаўскім кутку, ці то ў Крыніцы, што ля Сакаўшчыны. А можа каму больш даспадобы вада з Раднікоў, што «бруяцца» ў Івянецкім сельсавеце. І толькі, дай Бог, каб ніколі не перасыхалі крыніцы людской дабрыні, спагады, любові да маленькай радзімы, дзе караніцца твой род...

Зрэшты, гэта не адзіныя вёскі, назвы якіх струменяцца бадзёрасцю, якой адорвае нас вада. Ёсць на Сакаўшчынскай зямлі Праднікі, ёсць яны і ў Бабровіцкім сельсавеце. На Узбалаччыне нясуць сваю жыццёвую плынь Рачаняты. Гэтая назва асабіста ў маім уяўленні асацыіруецца з ласкавай прахалодай.

А вось наступнае найменне клубіцца тугой цеплынёй — Душкава. Але ёсць і больш «гарачэйшая» назва — Банькава. Няма праблемы, чым нанасіць вады ў чан — паблізу Вядзернікі! Словам, калі верыць тапаніміцы (топас — мясцовасць, анома — імя), то на Валожыншчыне ёсць дзе памыцца, ёсць і чым папарыцца, можна толькі злёгку пахлястацца венічкам з Беразаўца, а можна і ад душы, тады, калі ласка, у Дубашы! У такой лазеньцы разампееш, але потым пажвавееш.

Ды венічкаў на Валожыншчыне можна навязаць багата, на любы густ. Хочаш дубовы — кроч у Дубкі, жадаеш з вярбы — наведайся ў Вербаўцы. А якую багатую вязанку будзеш мець, калі пабываеш у Вішневе, Асінаўцы, Каштанаўцы, Альшанцы, Сасноўцы. А лепш адразу шыбаваць у Лістапады...

Цяпер жа давайце наведаемся на своеасаблівы тапанімічны агарод. Ступілі крок — і адразу заблыталіся ў сакаўным націнні бульбоўніку. Куды ж мы трапілі?! Ну, безумоўна ж, у Кісялі. Толькі тут расце самая крухмалістая бульба! А якія там найчасцей вараць кісялі: яблычныя ці журавінныя, завітайце ў вёску, даведайцеся самі. Самае ж шыкоўнае суквецце разнастайных раслінных культур, канечне ж, у залескіх Агародніках. А якія храбусткія, крамяныя агурочкі па фірменнаму рэцэпту рыхтуюць на зіму ў Часнаках! Найлепш жа квасяць адну з самых старажытных культур, вядома, у Капусціне, а ніколі не перабаршчыць солі ўмеюць толькі ў Саланой.

Зазірнем у вёскі, назвы якіх настойліва агітуюць за вегетарыянства. Гэта не толькі Часнакі і Кісялі, але яшчэ і Каноплічы, Крапіўнікі, Крупшчына, Грушаўшчына. Але ёсць і «антыподы», у прыватнасці, Кульшычы! Самыя хлебадайныя людзі жывуць, вядома, у Дружычах, а таксама ў Куцянятах. Быццам ва ўнісон назве гэтай вёскі гучыць і наступны выраз: тут дзень журбы і век гульбы, бо менавіта ў Куцянятах умеюць прыняць гасцей, наладзіць (мяркуючы па назве) такое застолле, пасля якога захочацца ўжо не вадзіцы з Крыніцы, а, магчыма, селёненькага піўта з агурковымводарам з Расолішкаў.

Нярэдка трапляюцца на Валожыншчыне і назвы — сапраўдныя суродзічы весялосці, добрага настрою. У адной з вёсак, ой, як трымаюць фасон шляхецтва. Гэта ...што іншае, як Мазурка! Блукаючы па тапанімічных сцежках, я зазірнула і ў вёску, дзе так любяць хвацкія, імпэтныя танцы. Здагадаліся, што гэта за вёска? Правільна, Ліхачы!

Наведаліся і ў куточкі, дзе, пазбавіўшыся жыццёвых клопатаў, можна пабыць сам-насам і пацешыцца, як цудоўна грае Дудка ў Зацішку або ў Засценку Скрыплева. А каб паслухаць больш мудрагелістую музыку, варта завітаць у Клерымонты, Каліварыю, Кантраполь, Зузанполь, Эпімахі... Якое чароўнае водгулле жыве ў гэтых назвах! А ў гэты розгалас аксамітам уліваюцца Пералясанка, Палогіна, Дарагунь, Гардынава... Суцішцеся на хвілінку і вы пачуеце: Зямля спявае! І гэтая песня так лагодзіць душу!

*Па тапанімічных сцежках Валожыншчыны хадзіла*

***Ірына ПАШКЕВІЧ.***

# Дэсанты на "шпіёнаў"

Маладзечанскі раён. Нават самыя старажылы раёна з цяжкасцю ўспамінаюць такія ўраджайныя гады на шампіньёны (ці, як завуць іх мясцовыя жыхары, "шпіёны"), як сёлетні. На пашах, а звычайна гэтыя вельмі смачныя і каштоўныя грыбы растуць там, дзе шмат гною, пасля нядаўніх дажджоў і цёплага надвор'я, іх высыпала столькі, што цяжка ўявіць. Так, ля вёскі Хажова ў напрамку Капачоў, а таксама на былым аэрадроме ў выхадныя дні можна было налічыць не адзін дзесятак "легкавікоў", а колькасць грыбнікоў сягала да сотні. І практычна кожны вяртаўся з "ціхага палявання" з поўным вядром альбо кашом грыбоў. Калі ж не падленавацца ды ўстаць на гадзінудругую раней, то можна было назбіраць і ў два-тры разы больш. На калгасным рынку вядро "шпіёнаў"( якія, дарэчы па сваіх пажыўных якасцях мала саступаюць баравікам) каштавала 50 тысяч "зайчыкаў", а то і менш. Сёй-той змог атрымаць нядрэнны прыработак.

Праўда, замаразкі апошніх дзён крыху прыпынілі гэту справу. Але ўжо на рынку ўсё больш з'яўляецца баравікоў, падасінавікаў. Пайшлі зялёнкі, іншыя восеньскія грыбы. Грыбныя "дэсанты"працягваюцца...

***Валерый МАРКЕЛАЎ***

# Паліва пачало паступаць

ВІЛЕЙКА. Па выніках мінулага года Вілейка была абвешчана самым халодным горадам ў рэгіёне. Падобна, што сёлета яна не імкнецца дабівацца гэтага пачэснага тытулу.

Бо як толькі веснавое сонца растапіла гэтую праблему, у горадзе адразу ж пачалі рыхтавацца да зімы наступнай.

Да зімы рыхтаваліся ўсе. Праведзены гідраўлічныя выпрабаванні цеплавых сетак, выяўлены і адрамантаваны аварыйныя ўчасткі.

З-за недахопу грошай і матэрыялаў марудна ішла падрыхтоўка кацельні завода "Зеніт"— асноўнай гарадской фабрыкі цяпла. Цяпер адрамантаваны помпы, рамантуюцца вадагрэйныя катлы даводзіцца да ладу мазутная гаспадарка.

З дапамогай больш дваццаці прадпрыемстваў горада і немалой грашовай пазыкі ў Вілейку пачало паступаць паліва.

***Таццяна СЕВЯРЫН***

# СТ-35? СТ-35!

МАЛАДЗЕЧНА. Дзеля прыцягнення ўвагі патэнцыяльны пакупнікоў мясцовы радыёзавод "Спадарожнік" ладзіў днямі прэзентацыю вырабляемага на ім прамысловага цеплалічыльніка СТ-35 і яго мадэфікацый для адкрытых і закрытых сістэм.

Каля 40 запрошаных на гэтую нараду спецыялістаў з Гродна, Светлагорска, Вілейкі, Ваўкавыска, Ліды, Мінска прыехалі сюды, каб больш дасканала азнаёміцца з тэхнічным апісаннем новага прыбора. Гэта не выпадкова, бо прадпрыемствы, камандзіраваўшыя ў Маладзечна сваіх прадстаўнікоў, непасрэдна займаюцца ўсталяваннем лічыльнікаў цяпла. Таму дыялог паміж вытворцамі СТ-35 і гасцямі прэзентацыі быў дзелавым і карысным для абодвух бакоў. Хапіла ўсяго: і крытыкі, і станоўчых водгукаў.

Несумненнымі вартасцямі СТ-35, прайшоўшым сертыфікацыю на дзяржаўным узроўні, з'яўляюцца яго трываласць да вялікіх перагрузак, камплектнасць (пастаўляецца разам з дыфманометрам, расхадаметрам, тэрмометрам і інш.). Да ўсяго ж, ён вельмі танны на беларускім рынку і не патрабуе для сваёй праверкі пралiўных станцый ( імітуе перапад ціску сціснутае паветра), а камплектацыю да яго ў асноўным вырабляе сам вытворца – "Спадарожнік". Ён жа гарантуе рамонт лічыльнікаў і сервіснае абслугоўванне.

Паспрабую прадугадаць пытанні чытачоў і адказаць, ці выкарыстоўвае само прадпрыемства вырабляемыя на ім лічыльнікі. Толькі сёлета ў дзіцячых садках, інтэрнаце, на аранжарэі, ацяплядьных сістэмах усталяваны 9 прыбораў. У 1996 годзе іх колькасць узрасце да 16 штук, што дазволіць больш чым у 2,5 разы зменшыць расход цеплаэнергіі, не парушаючы тэмпературнага рэжыму.

Вынік нарады ў частцы падпісання дамоўленасцяў на пастаўку можна назваць добрым. Заключаны адзін кантракт з Мінскай фірмай "Белросцепласервіс", а ўпраўленне капітальнага будаўніцтва з Гродна, якое распрацоўвае тэхдакументацыю для новабудоўляў, абяцала ўключаць найдалей у новыя праекты забудоў наяўнасць СТ-35. Пачатак прасоўнню гэтага прыбора на беларускі рынак пакладзены. У добры шлях на карысць людзям!

***Ірына ШАСТАКОВІЧ***

